№ 18 (42)
Верасень 1999

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



Беларуская Мадонна...

## Звычайны лукашызм

Весткі з Беларусі ў верасьні нагадвалі зводкі з поля бою: улады перайшлі ў адкрыты наступ; апазіцыя нясе страты; зьнік адзін з вядомых апазіцыйных лідэраў, віцэ-сьпікер адзінага ў Беларусі легітымнага органу ўлады —Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня — Віктар Ганчар; зачыненая незалежная газета "Навіны"; перастала выходзіць незалежная газета "Имя"; прадпрымальнікі аб'явілі пра бестэрміновы страйк;

*(Працяг на стар. 6)*

## Хроніка

***19 верасьня*** Зінаіда Ганчар, жонка Віктара Ганчара, які зьнік 16 верасьня, накіравала адкрыты ліст прэзідэнту Расіі Барысу Ельцыну. "Зьвяртаюся да Вас як да дзяржаўнага дзеяча, які ўнёс велізарны ўклад у пабудову дэмакратычнага грамадзтва ня толькі ў Расіі, але і на ўсёй постсавецкай прасторы, — піша Зінаіда Ганчар, — 16 верасьня ў Мінску быў выкрадзены мой муж — адзін з вядучых лідэраў беларускай апазіцыіі, выконваючы абавязкі старшыні Вярхоўнага Савета Віктар Ганчар і ягоны сябар Анатоль Красоўскі. Іх лёс дагэтуль застаецца невядомым. Праваахоўныя органы Беларусі не прадпрымаюць фактычна ніякіх дзеяньняў па адшуканьні Ганчара і Красоўскага, а таксама па выяўленьні арганізатараў гэтага злачынства... Я зьвяртаюся да вас з просьбай умяшацца і дапамагчы спыніць тэрор у Беларусі, а таксама дапамагчы высьветліць лёс майго мужа".

***20 верасьня*** ЗША выказалі занепакоенасьць зьнікненьнем у Беларусі апанентаў рэжыму А.Лукашэнкі. Намесьнік прэссакратара Дзяржаўнага дэпартаменту ЗША Джэймс Фоўлі выступіў з заявай. У афіцыйнай заяве Дзярждэпартаменту ЗША сказана: "Зьнікненьне Віктара Ганчара — ня першае сярод асноўных апанентаў рэжыму Лукашэнкі. 8 красавіка зьнікла былы старшыня Нацыянальнага банку Тамара Віньнікава. 7 траўня пры загадкавых абставінах на шляху дадому зьнік былы міністр унутраных спраў генерал Юры Захаранка. Месцазнаходжаньне і цяперашні стан сп. Віньнікавай і генерала Захаранкі дагэтуль невядомыя. Злучаныя Штаты глыбока занепакоеныя тэндэнцыяй да зьнікненьня апанентаў рэжыму Лукашэнкі ў Беларусі. Мы заклікаем урад Беларусі прыкласьці ўсе намаганьні для вызначэньня месцазнаходжаньня сп. Ганчара, сп. Віньнікавай і генерала Захаранкі і забесьпячэньня іх бясьпекі".

*(Працяг на стар.6)*

# Суд над свабодным словам

## 29 верасьня выйшаў апошні нумар незалежнай газеты "Навіны"

24 верасьня ў судзе Маскоўскага раёну г.Мінску адбыўся беспрэцэдэнтны працэс па зыску дзяржсакратара Савету бясьпекі Рэспублікі Беларусь Віктара Шэймана да незалежнай газеты "Навіны" і журналіста Сяргея Аніські. Зыск зьявіўся пасьля таго, як на публікацыю ў газеце зьвярнуў увагу Аляксандр Лукашэнка і на чарговай нарадзе загадаў "закрыць газету па суду". В.Шэйман палічыў, што газета "Навіны" у артыкуле "Хто ў церамках жыве" (публікацыя прысьвечаная сядзібе бацькоў В. Шэймана ў в.Падліпкі Пухавіцкага раёну) абразіла ягоныя "гонар і годнасьць".

Маральную шкоду В.Шэйман ацаніў наступным чынам: 10 мільярдаў рублёў спагнаць з газеты "Навіны", 5 мільярдаў рублёў — з аўтара артыкула Сяргея Аніські (усяго каля 50 тысячаў амерыканскіх даляраў).

Суд пачаўся ў 10 гадзінаў раніцы і скончыўся ў 17.45. Напачатку зала пасяджэньняў не магла зьмясьціць усіх прадстаўнікоў грамадзкасьці і прэсы, якія хацелі прысутнічаць на працэсе. Так, з 10 гадзінаў да 12.30 у калідоры чакалі магчымасьці трапіць у залу прадстаўнік АБСЕ Крыстафер Паніко, сябры Беларускага Хельсінкскага камітэту і журналісты.

Дзяржаўны сакратар Савету бясьпекі В.Шэйман на суд не зьявіўся. Яго інтарэсы ў судзе прадстаўляў супрацоўнік Савету бясьпекі Бяржанін.

Учым заключалася "абраза", нанесеная газетай дзяржсакратару? У артыкуле было напісана, што на ўчастку бацькоў Шэймана будуецца лазьня, а прадстаўнік істца казаў, што лазьні там няма. І яшчэ: газета "Навіны" напісала, што шлях ад маёра да генерал-лейтэнанта Віктар Шэйман прайшоў за пяць гадоў. Ісьцец прадставіў суду афіцыйную даведку аб тым, што з моманту прысваеньня Віктару Шэйману званьня маёра да прысваеньня генерал-лейтэнанта прайшло дзевяць гадоў. Суд у сваю чаргу адхіліў хадайніцтва аб прадстаўленьні з міністэрства абароны паслужнога сьпісу В.Шэймана. Дарэчы, на судзе прадстаўнік істца так і ня здолеў патлумачыць, чаму ўзгадка імклівай службовай кар'еры дзяржсакратара зьяўляецца абразай. На думку істца, абразай было і сьцьвярджэньне журналіста пра тое, што паміж сядзібай бацькоў Шэймана і суседнім участкам адсутнічае плот, і тое, што летняя кухня на ўчастку абліцаваная дрэвам (так было напісана ў артыкуле, а прадстаўнік істца сьцявярджаў — што цэглай. Чаму пададзеныя ў артыкуле факты зьяўляюцца абразьлівымі для Віктара Шэймана так і засталося незразумелым. Прадстаўнік істца доўга тлумачыў, што В.Шэйман шмат намаганьняў прыкладае для барацьбы з карупцыяй, таму публікацыя пра дом ягоных бацькоў была недапушчальнай.

Аўтар артыкула Сяргей Аніська сказаў: "Хацелася, каб на судзе прысутнічаў сам ісьцец, тады размова была б больш прадметнаю. Ва ўсім сьвеце апісаньне жыцьця дзяржчыноўнікаў лічыцца нормай. Я ня меў мэты зазірнуць у кішэню дзяржсакратара. Я пісаў не пра Шэймана, а пра дом сям'і Шэймана. Гэты дом можна лічыць аб'ектам незавершанага журналісцкага дасьледваньня".

Намесьнік галоўнага рэдактара "Навінаў" Мікалай Халезін сьцьвярджаў на судзе: "Мы ніякім чынам не закранулі гонар і годнасьць дзяржсакратара. Жыцьцё падобных людзей заўсёды знаходзіцца пад увагай журналістаў. У артыкуле няма сьцьвярджэньня, што ён карупцыянер і жыве не па сродках. Журналіст у артыкуле абапіраўся на свае ўражаньні ад наведваньня вёскі Падліпкі".

Адказчыкі падалі некалькі хадайніцтваў (у тым ліку і пра недавер суду), але ўсе яны былі адхіленыя. Судзьдзя Савіч задаволіў зыск В.Шэймана у поўным аб'ёме. Рэдакцыя газеты "Навіны" плануе абскардзіць гэтае рашэньне ў Мінскім гарадзкім судзе.

29 верасьня выйшаў у сьвет апошні нумар незалежнай газеты "Навіны". Маскоўскім судом г.Мінску быў накладзены арышт на маёмасьць газеты. Судовы выканаўца Ізарын зьявіўся ў друкарню і запатрабаваў спыніць друк чарговага нумару газеты "Навіны", а таксама зрабіў арышт газетнай паперы. Рэдакцыя плануе цяпер выпускаць газету пад новай назвай — "Наша свабода".

**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА**

## Каментар галоўнага рэдактара газеты "Навіны" Паўла ЖУКА:

— Зразумела, гэты суд, як і ўсе іншыя, мы прайграем. Пакуль Лукашэнка будзе пры ўладзе — гэта стопрацэнтна. Артыкул, надрукаваны ў нашай газеце, ня нёс у сабе нічога абразьлівага. Гэта была старая задумка, падрыхтаваць шэраг матэрыялаў на тэму "хто як жыве". Першае, што мы зрабілі — сфатаграфавалі дачы пісьменьнікаў. Але, пасутнасьці, тэма была нераспрацаваная. Пасьля зьявіўся артыкул пра Шэймана. Тое, што ў ім напісана, абсалютна адпавядае таму, што ёсьць на самой справе. Загад задушыць газету быў дадзены згары, таму што газета сталася косткай у горле ўладаў. Чаму? Таму што гэта была адзіная газета, якая пасьлядоўна і мэтанакіравана праводзіла ў грамадстве думку аб тым, што Лукашэнка абсалютна нелегітымны... Артыкул пра сядзібу бацькоў Шэймана — гэта проста зачэпка, калі б ня ён — было б нешта іншае. Падобны матэрыял пра дом, дзе жыве жонка Лукашэнкі на наступны дзень надрукавала "Белорусская деловая газета"... Таму можна рабіць выснову, што ў адносінах да нашай газеты зьдзейсьненая палітычная расправа. Цяпер мы плануем выдаваць газету "Наша свабода". Але начальнікі на месцах атрымалі загад рабіць усё, каб газета ня выйшла — яе адмаўляюцца друкаваць, адмаўляюцца браць у распаўсюджваньне.

Сёньня нам даслалі судовае рашэньне. Судзьдзя Савіч адзін да аднаго перапісаў зыск Шэймана, толькі зьнізу дапісаны паўабзаца — "газетам "Рэспубліка", "Зьвязда" і "Советская Белоруссия" надрукаваць рашэньне суда". Судзьдзя ня ўнёс ніводнай сваёй фармулёўкі. А, значыць, судзьдзі проста загадалі задушыць газету. І ён гэта зрабіў. Судзьдзі ж у нас зараз не выбіраюцца, а прызначаюцца Лукашэнкам.

Пасьля таго, як гарадзкі суд прыме рашэньне не на нашую карысьць, мы будзем падаваць на абскарджваньне ў Вярхоўны суд, які, можна гэта прагназаваць ужо цяпер, таксама не адменіць рашэньне. З нас будуць цягнуць грошы... Але атрымалася сьмешная сітуацыя. Калі яны наклалі на наш рахунак арышт, то газета ня можа існаваць, і, значыць, ня можа выплаціць грошы. Адсюль вынікае, што задача ў іх не атрымаць грошы, каб захаваць свой "гонар і годнасьць", а проста зачыніць газету.

Сума зыску па дзяржаўным курсе складае 52 тысячы даляраў ЗША. Гэта несувымерная сума. Я на судзе параўнаў гэтую суму з той кампенсацыяй (200 даляраў ЗША), што атрымалі бацькі, дзеці якіх загінулі 30 траўня на Нямізе.


Павел ЖУК

Там людзі загінулі, і загінулі ад таго, што ўлады не прынялі адпаведныя меры. І той жа Маскоўскі суд адмовіўся прыняць зыск бацькоў на матэрыяльную кампенсацыю. Вось і паказальнік. Чалавечае жыцьцё — для іх нічога ня значыць. А ці была лазьня каля дому бацькоў Шэймана, ці не была — гэта прынцыповае пытаньне. Хаця зруб лазьні там быў, яго прыбралі пасьля публікацыі... Такім чынам, 24 верасьня ў Мінску адбыўся палітычны працэс, галоўная мэта якога — закрыцьцё незалежнай газеты.

 



## Алег ВОЎЧАК:

# «Захаранку і Ганчара выкрадалі адныя і тыя ж людзі...»

***З былым сьледчым пракуратуры, дэпутатам Мінскага гарсавету, кіраўніком грамадзкага аб'яднаньня «Прававая дапамога насельніцтву» Алегам Воўчакам карэспандэнт «ПРАВА на ВОЛЮ» меў намер сустрэцца даўно: спачатку пасьля таго, як Алег узначаліў камісію па расьсьледваньні зьнікненьня былога міністра ўнутраных справаў Беларусі Ю. Захаранкі, потым калі пасьля 21 ліпеня Алега Воўчака арыштавалі, зьбілі міліцыянты і супраць яго была заведзеная крымінальная справа... Аднак нагодай дзеля сустрэчы стала іншае здарэньне — раптоўнае зьнікненьне Віктара Ганчара...***


Алег ВОЎЧАК

***— Спадар Алег, вы былі ў ліку тых людзей, якія першымі агледзелі месца зьнікненьня Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага...***

— Так. І вынікі нашага агляду добра вядомыя грамадзкасьці. На месцы здарэньня знойдзены сьляды крыві. Гэтая кроў накіраваная на экспэртызу. Рэшткі шкла ад задніх фараў машыны, якія сабраныя там, будуць таксама накіраваныя на дасьледваньне экспэртам. Я мяркую, што пад націскам грамадзкасьці і прэсы афіцыйныя сьледчыя органы будуць працаваць уважлівей. Але наколькі эфектыўна – тут, вядома, складана сказаць... На сёньняшні дзень, наколькі я ведаю, няма ніякай інфармацыі пра тое, дзе знаходзіцца Ганчар і хто яго выкраў. Але факт, што грамадзкасьць вельмі заклапочаная. Я ведаю, што і ў Берасьцейскай, і ў Гомельскай абласьцях зьявіліся ініцыятыўныя групы па пошуку Ганчара і Красоўскага. Даюць аб'явы самі простыя грамадзяне, аб'ядноўваюцца ў незалежныя грамадзкія камісіі і шукаюць па ўсёй Беларусі...

Уладныя структуры таксама спалохаліся гэтага зьнікненьня. Я маю на ўвазе найперш МУС і пракуратуру. Для іх стаў нечаканасьцю масіраваны зварот прадстаўнікоў дыпламатычнага корпусу да Лукашэнкі, патрабаваньні праводзіць аб'ектыўнае расьсьледваньне. Былі звароты ад АБСЕ, Дзярждэпартаменту ЗША... Усе комплексна «навaліліся» на наш урад. І таму ўжо 20-га верасьня была ўзбуджаная крымінальная справа: па артыкуле 101-м КК РБ яе ўзбудзіла пракуратура горада Мінску.

Заўсёды, падчас маёй працы ў пракуратуры, калі чалавек зьнікаў і заставаліся сьляды нападу, мы ўзбуджалі справу па 101-м артыкуле — «наўмыснае забойства». Толькі ў працэсе сьледзтва па справе зьнікненьня Ганчара будзе высьветлена, хто яго захапіў і што з ім. Увогуле, узбуджэньне справы па 101-м артыкуле гэта ўжо плюс у параўнаньні з дзеяньнямі ўладаў пасьля зьнікненьня Юрыя Захаранкі. У тым выпадку справу па 101-м артыкуле не хацелі ўзбуджаць. Хоць абставіны – адны і тыя ж, і падобны «почырк» у выкрадальнікаў. Я лічу, што выкрадалі Захаранку і Ганчара адны і тыя ж людзі. Дзейнічае адна, як кажуць, «запрэжка». У пракуратуру ўжо выклікалі жонку Віктара Ганчара Зінаіду Ганчар дзеля дачы паказаньняў. Наколькі мне вядома, афіцыйнае сьледзтва робіць націск на пытаньнях пра грошы, фінансаваньне. Гэта для ўладаў падстава лішні раз праверыць фінансавыя справы Ганчара, дзе, з кім ён і якія сувязі падтрымліваў. Наколькі я ведаю, такое стаўленьне выклікала заканамерную крыўду ў родных, што не чалавека шукаюць, а ягоныя сувязі.

***— Ці ёсьць магчымасьці незалежна ад уладаў праводзіць экспэртызу ў нашай краіне?***

— На жаль, у нас экспэртызы праводзяцца навукова-дасьледчымі інстытутамі, хоць ёсьць яшчэ структуры ніжэйшага ўзроўню ці іншага падпарадкаваньня, якія гэтым могуць займацца. Мы сабралі часьцінкі ад фараў машыны, тармазны шлях там быў – пыл сабралі з асфальту... Аказваецца, незалежна дасьледаваць гэта вельмі складана. Без прызначэньня сьледчага эксперты нічога ня будуць рабіць. Альбо – без рашэньня суда... Таму зараз, наколькі я ведаю, ідуць пошукі экспэртаў у замежжы. Аб'ектыўна дасьледаваць немагчыма, калі ўсё падпарадкоўваецца аднаму чалавеку. Дырэктар таго ж навукова-дасьледчага інстытуту прызначаны прэзідэнтам...

***— Між тым, па дзяржаўным тэлебачаньні карэспандэнтка Кавалёва ўжо заявіла, што на месцы здарэньня з Ганчаром і Красоўскім кроў была раней...***

— ... і шкло было там пабітае, і дрэвы падрапаныя, і кусты ў кожным двары ў нас машынамі пашкоджаныя... Гэтая заява азначае адно: ужо зноў пачалося замбаваньне людзей. Я лічу, што карэспандэнт БТ (як любы журналіст) увогуле ня мае права гэтак сьцьвярджаць. Падобнага роду высновы маюць права рабіць толькі сьледчыя. Журналіст ня можа займацца тым, што знаходзіцца ў чужой кампетэнцыі: калі сьляды крыві былі – раней, пазьней... Гэта яшчэ пакуль нават экспэрты – я больш чым упэўнены – ня вызначылі, а Кавалёва ўжо сьцьвярджае. Зразумела, што яна выконвае заказ. Улады проста спалохаліся таго, што сьляды ужываньня гвалту былі знойдзеныя нашай ініцыятыўнай групай...

***— Як вы думаеце, ёсьць шанец знайсьці Ганчара, Красоўскага, а таксама і Захаранку?***

— Ня ведаю. Скажу, як юрыст: калі б у нас была і дзейнічала Канстытуцыя, каб быў рэальны падзел уладаў, г.зн. генеральны пракурор і міністр унутраных справаў прызначаліся Вярхоўным Саветам, а не прэзідэнтам, то тады б можна было пра нешта гаварыць. Але калі падзелу ўладаў у нас няма, складана казаць пра незалежнасьць і самастойнасьць сьледзтва. Калі адысьці ад справы Ганчара, то мяне асабліва зьдзівіў адзін факт, што тычыцца арыштаваных ня так даўно прадпрымальніка Лагвінца і дырэктара Беларускага металургічнага заводу Феактыстава. Там быў відавочны падзел інтарэсаў розных структураў: у МУС не хацелі, каб Лагвінца вызвалялі, а ў пракуратуры настойвалі на вызваленьні. І я прачытаў паведамленьне пра тое, што Лукашэнка стварыў нейкую міжведамасную камісію, у якую ўвайшлі нібыта лепшыя юрысты, і яна вырашала, вызваляць ці не вызваляць Лагвінца... Гэта нонсэнс, такога ўвогуле быць ня можа! Ёсьць пракуратура, якая вядзе нагляд, і яна вырашае такія пытаньні. Ёсьць суд...

Ужо зараз я бачу, як яны шукаюць Ганчара. Яны фармальна нібыта нешта робяць – калупаюць у носе, перапрашаю за выраз, але іх работы не відаць, бо яе, кажу гэта як сьледчы, проста няма. Калі я другі раз пабыў на месцы зьнікненьня Ганчара і Красоўскага, то пабачыў: афіцыйныя структуры правялі агляд месца здарэньня на "двойку". Гэта калі выстаўляць ім адзнаку... Таму што, калі агляд праводзіцца, прачэсваецца цалкам уся тэрыторыя, зьбіраюцца ўсе мікрачасьцінкі, падмятаецца ўсё шкло. А там бардак такі быў! Уначы фатаграфавалі, а ў дзень — не. А гэта неабходна было зрабіць, бо інакш дакладнасьці ня будзе. Я свае фотаздымкі адаслаў у «Міжнародную амністыю»,

(Працяг на стар. 4.)



 

# «Захаранку і Ганчара выкрадалі адныя і тыя ж людзі...»

(Пачатак на стар.3)

каб яны таксама з імі пазнаёміліся. Дарэчы, у «Міжнароднай амністыі» вельмі занепакоеныя – гэта ўжо ня першы ў Беларусі выпадак зьнікненьня людзей. Яны мне даслалі ліст. Пішуць, што ўжо накіравалі паперы ў сьпецыяльную камісію ААН. Як і па зьнікненьні Ю.Захаранкі, гэтаксама ў ААН заведзеная справа і па зьнікненьні Ганчара і Красоўскага. Прадстаўнікі ААН сьцьвярджаюць, што сутыкаюцца зь нейкай неадукаванасьцю, бесталковасьцю беларускіх уладаў.

***— Ці могуць прадстаўнікі ААН прыехаць у Беларусь дзеля правядзеньня свайго расьсьледваньня непасрэдна на месцы?***

— Камісія павінна была прыехаць сюды недзе ў лістападзе-сьнежні. Гэтае пытаньне вырашалася. Яна павінна мець доступ у сьледчыя ізалятары, у турмы, і ўлады нібыта падпісалі дазвол, а цяпер, наколькі мы бачым з прэсы, пачынаецца адцягваньне часу гэтага прыезду на больш далёкія тэрміны... У нас ужо прысутнічае прадстаўніцтва АБСЕ і бесперапынна дасылае інфармацыю пра сітуацыю ў краіне. Ну а калі камісія ААН прыедзе, натуральна, Лукашэнку будзе цяжка «адбіцца» ад хвалі інфармацыі аб парушэньнях правоў чалавека ў Беларусі. Таму ўлада і будзе ўсяляк адцягваць, пераносіць яе прыезд.

***— Ці бывала ў вашай практыцы, каб бясьсьледна зьнікалі людзі ў нашай краіне ці іх, скажам, бралі ў закладнікі?***

— У нас у год зьнікае да тысячы чалавек. Потым недзе 200-300 зь іх знаходзяць, але да 500-600 выпадкаў у нас так і застаюцца нераскрытымі. Абставіны і прычыны зьнікненьняў розныя. Калі я працаваў у пракуратуры сьледчым, дык праблемы зьнікненьня людзей для нас былі самымі балючымі і вострымі. Натуральна, калі людзі зьнікаюць, яны трапляюць у пэўную справаздачнасьць. І калі па ўсіх выпадках узбуджаць справу па 101-м артыкуле КК РБ, то будзе штогод 600 нераскрытых крымінальных справаў "вісець" на сьледчых. Гэта нявыгадна. Таму часьцей ва ўзбуджэньні справы адмаўляюць. Камісія ААН, якая прыедзе, можа шмат такіх фактаў знайсьці і нават не адну справу Ганчара расьсьледваць. Вы ведаеце, што аўтарытэт нашых сьледчых падае, у тым ліку і сярод крымінальных структураў. Той жа Шчаўлік, крымінальны аўтарытэт ("злодзей у законе"), прапаў паўтары гады таму, той жа Шулай – таксама аўтарытэт – забіты пры дзіўных абставінах: выбухнула машына. Вельмі падазроны выпадак і, наколькі я ведаю, гэта ня справа рук бандытаў.

Ствараецца ўражаньне, што, сапраўды, як пісаў публіцыст-аглядальнік А.Патупа, у нашай краіне дзейнічае нейкі «чорны эскадрон», які зьнішчае ня толькі апазіцыйных дзеячаў. Дзеля таго, каб было спакойна аднаму аўтарытэту...

***— Зь ліку тых 200-300 зьніклых людзей, што ўдаецца знайсьці, ці шмат жывых?***

— Цяжка сказаць. Раз на раз не выходзіць. Бывае, людзі зьяўляюцца самі. Скажам, з камандзіроўкі. Альбо дзяўчаты селі ды паехалі таньчыць у замежжы, у пэўных месцах і на год — "зьнікалі". Ёсьць такія. Бывае, бабуля паехала адна на лецішча і па дарозе, недзе ў лесе, здарыўся інфаркт. Пакуль яе труп ня знойдуць — ніякіх зьвестак пра чалавека. Іншыя людзі выязджаюць у Расію на заробкі і не тэлефануюць родным. А бываюць і цяжкія злачынствы. Яны зьвязаныя найперш з кватэрнымі пытаньнямі: людзей забіваюць дзеля таго, каб карыстацца іхнім жытлом. На жаль, з кожным годам, як я бачу па ўзроўні працы крымінальнага вышуку, усё горшыя і горшыя вынікі расьсьледаваньня падобных справаў. Няма прафесіяналаў. Сам я часта расьсьледваў справы па забойствах. Вы, пэўна, чулі пра справу са зьнікненьнем дзяўчынкі, якую мы ажно ў Бельгіі знайшлі? У 1996-м годзе гэта было, у друку пра гэта паведамлялася. Пісалі і пра зьнікненьне хлопчыка, якога, як высьветлілася, згвалціў і забіў адзін маньяк. Быў такі выпадак у нас.

Той факт, што падае прафесіяналізм сьледчых органаў, з кожным годам стварае усё больш праблемаў для кіраўніцтва МУС, КДБ. Хіба толькі ў КДБ яшчэ больш-менш кадры захоўваюцца.

***— Не сакрэт, што так званая чыстка кадраў прайшла ў 1996 і 1997 гадах па ўсіх дзяржустановах. Вы самі сышлі з пракуратуры ці вас «папрасілі па-добраму»?***

— Я сыйшоў сам, бо адчуў, што далейшая мая праца пагражае стратай прыстойнасьці і сумленнасьці. Я не хачу, каб у адзін цудоўны дзень мне сказалі: ты працаваў на гэтую сістэму, незаконна асуджаў. Я бачыў, што пракуратура пачынае абслугоўваць улады. У 1994-95-м годзе яшчэ можна было працаваць, і ў 1996 – да восені. А потым... Таму ў 1998 я і зволніўся. Проста ў мяне адносіны вельмі напружаныя склаліся з пракурорам горада Купрыянавым. Мая кар'ера ўсяляк стала тармазіцца, калегі мне казалі: ты крытыкуеш начальства, каму ты такі патрэбны?.. Я сышоў ды арганізаваў сваю маленькую «пракуратуру» – «Прававую дапамогу насельніцтву». Дапамагаем грамадзянам. Тыя ж зыскі складаем, абараняем у судах. Прынялі ўжо чалавек трыста.

***— Якія юрыдычныя праблемы сёньня самыя балючыя для людзей?***

— У асноўным – жыльлёвыя. Яны на першым месцы. Потым ідуць праблемы са спадчынай. Да нас часта пенсіянеры, інваліды зьвяртаюцца. Шмат пытаньняў у людзей і па сацыяльных гарантыях. На чацьвёртым месцы, можна сказаць, ужо нейкія асабістыя пытаньні. Вельмі шмат скаргаў на адказных асобаў, дзяржслужачых. Скаргі, зьвязаныя з працоўнымі адносінамі, часта – з працай органаў міліцыі. На органы пракуратуры, на суды вельмі шмат скардзяцца. Некампетэнтнасьць, зацягваньне справаў, карупцыя, пры якой «усё вакол павязана» – вось пра што гавораць людзі. Пасьля працы з людзьмі складаецца трывалае ўражаньне, што народ вельмі негатыўна ставіцца да сёньняшніх уладаў. Гэта, у прынцыпе, вельмі кепска. Калі яшчэ год вось так папрацуе ўлада, дык прававы нігілізм, які і так існуе, перасягне ўсе межы. Гэта прывядзе да непаслушэнства, нявер'я ў справядлівасьць. У краіне павінен быць аўтарытэт уладаў, як гэта мы бачым за мяжою. Я б на месцы Лукашэнкі зьездзіў, паглядзеў. Зрэшты, яго ніхто ў краіны дэмакратыі не запрашае, ён у нас невыязны...

***— Скажыце, калі ласка, які працяг мае заведзеная супраць вас у сёлетнім ліпені крымінальная справа?***

— Учора мы разам з маім адвакатам Верай Страмкоўскай наведалі пракуратуру Маскоўскага раёна, дзе дамовіліся сустрэцца з раённым пракурорам Лайтэрам. Але мы так зь ім і не сустрэліся. Падчас свайго рабочага прыёму пракурор некуды зьехаў. Незразумела: ці то ён не захацеў з намі сустракацца, ці то ў яго сапраўды былі нейкія свае праблемы... Але мы праз сьледчага даведаліся, што справу, аказваецца, працягнулі яшчэ на месяц у сувязі з правядзеньнем нейкіх сьледчых дзеяньняў. Атрымліваецца, што да трох месяцаў тэрмін сьледства працягнуты. На маю скаргу, як мы даведаліся, ніякай рэакцыі няма. Міліцыянты, якія зьбівалі мяне, як працавалі, так і працуюць, ніякіх мераў да іх не было прынята. Гэта тое, што тычыцца крымінальнай справы. Учора скончыўся суд па адміністратыўнай справе за мой удзел у мітынгу, прысьвечаным Дню Незалежнасьці Беларусі 27 ліпеня. Для мяне нонсэнс у тым, што я сапраўды быў на тым мітынгу у 18 гадзін, але ня ўдзельнічаў у ім і нідзе не ішоў, як гэта гаворыцца ў складзеных на мяне "ліпавых" рапартах. І калі ў судзе дапытвалі аператыўнікаў, участковых інспектараў, яны патлумачылі, што атрымалі каманду ад начальства скласьці на мяне гэткія рапарты.

***— Прозьвішчы людзей, якія гэта рабілі, ведаеце?***

— Ведаю —Юхновіч і Кірвашэвіч, участковыя Савецкага раёна. Так атрымалася, што судзьдзя, як бы яна да мяне прадузята ні ставілася, не змагла выцягнуць справу нават да папярэджаньня. І яна спыніла вытворчасьць. Я і раней назіраў грубыя парушэньні працэсуальнага заканадаўства, а вось тут сутыкнуўся з гэтым асабіста...

**Гутарыла**
**Тацяна СЬНІТКО**

***Рубрыка "Рэаліі нашага жыцця" трывала прапісалася на старонках "ПРАВА на ВОЛЮ". На жаль, нашая сёньняшняя рэчаіснасьць дае бясконцую колькасьць тэмаў і сюжэтаў пра тое, як крыўдзіцца ўладамі Беларусі "маленькі, непрыкметны чалавек" — просты грамадзянін , як парушаюцца ягоныя самыя элементарныя правы. Скажам толькі, што кожны факт, які мы бярэм у якасьці прыкладу, не адзінкавы, а звычайны і ў нейкай ступені паказальны...***

# Сто кілё бульбы

## Рэаліі нашага жыцця

“Піша вам Уласенка Марыя Рыгораўна, 70-гадовая пенсіянерка, адзінокая ўдава. Колькі год маўчала, баялася кудысьці паскардзіцца, баялася сваёй мясцовай улады. А зараз прыходзіць канец мне, застаецца альбо скончыць жыцьцё самагубствам , альбо зьехаць з гэтай гаспадаркі, каб спакойна дажыць. Усе суседзі зьдзіўляюцца, перажываюць з-за мяне.

Жыву я ў пасёлку Эбены эксбазы “Любаньская” Любаньскага раёну, жыву тут з 1953 года. Муж мой, удзельнік вайны, рана памёр, мне тады было 37 гадоў. Пакінуў мне пяцёра дзяцей, адно з іх — грудное . І вось я сама іх вырасьціла, як змагла. Здароўе цяпер дрэннае, шмат хваробаў. І жыву я ўсё жыцьцё адна, замуж не хадзіла, шкадавала дзетак.

Пішу і за сьлязьмі слоў ня бачу, прабачце, мо дзе ня так напісалася. Я малапісьменная, вайна зламала дзяцінства... Але я думаю, вы мяне зразумееце. Вось зараз апісваю канфлікт з нашым старшынём сельсавету Вяроўкам М.М.

Яго да нас прыслалі пасьля інстытута працаваць настаўнікам разам з жонкаю. Ён у нас працаваў, хадзіў у вёску Жалы. Кватэр у гаспадарцы не было тады, а ў мяне вялікі цагляны дом, два выхады і яму параілі ісьці да мяне на кватэру. І я яго ўзяла, дала паўдома. Пакольки ён аказаўся грубіян, я прапанавала яму ачысьціць памяшканьне. Пакуль працаваў настаўнікам, ён мяне ніяк ня мог дастаць, а зараз ён — старшыня сельсавета, і ўсё мяне есьць і кусае любым спосабам. Я да яго не хаджу па дапамогу: ні па дровы, ні па брыкет. Дастаю паліва, як магу.

І вось у мінулым годзе ў нас вымакла бульба, не было і аднаго мяха. І мы пасьля ўборкі бульбы на поле эксбазы хадзілі перакопваць яе. Бульба на полі была ўбраная. Мы з суседкай Хадневіч Юляй Мікалаеўнай пайшлі туды перакапаць ці назьбіраць бульбы, што засталася ў зямлі. Мы назьбіралі з ёй па тры невялікія мяхі: дзе зялёная, дзе мароз пабіў, бо маразы ўжо былі. Там жа было шмат людзей, і любаньскіх, і нашых — як мурашак. Вось і прыязджаюць наш старшыня сельсавета і дырэктар эксбазы, пагружаюць нашыя мяхі ў машыну і адвозяць. Яшчэ з намі перакопвала Цецярук Ніна з унукам, у яе таксама бульбу забралі.

А пакаралі чамусьці мяне адну... Падавала я скаргу ў абласную пракуратуру, вось дасылаю іх адказ. Усе перакопвалі бульбу, а штраф вылічылі з пенсіі ў мяне адной. А пенсіі той мне хапае толькі на хлеб, малако ды лекі. Шмат бульбы ў нашай гаспадарцы пайшло пад сьнег, памерзла два полі цалкам. Мільярды ў зямлі засталіся, а судзілі і пакаралі мяне адну..."

*Адказ грамадзянцы Уласенка з пракуратуры Мінскай вобласьці:* "Пракуратурай Мінскай вобласьці праведзена праверка па Вашай скарзе на неабгрунтаванае прыцягненьне да адміністратыўнай адказнасьці.

Праверка паказала, што 24.10.98 г. з поля э/б “Любаньская” каля в. Баяны Любаньскага раёну вамі ўкрадзена 100 кг бульбы на агульную суму 1 000 000 рублёў, што пацьвярджаецца матэрыяламі адміністратыўнай справы.

Вашы сьцьвярджэньні пра тое, што на момант крадзяжу поле было нібыта ўжо ўбрана, не пацьвердзіліся.

Апытаныя ў ходзе праверкі дырэктар э/б “Любаньская” Іёшка І.І., старшыня выканкама Сасноўскага сельсавета Вяроўка М.М. заявілі, што 24.10.98 г. бульба на ўказаным полі яшчэ не была ўбраная.

З улікам вышэйвыкладзенага, пастанова судзьдзі Любаньскага раённага суда ад 23.11.98 г. аб прыцягненьні Вас да адміністратыўнай адказнасьці па арт. 51 КаАП Рэспублікі Беларусь зьяўляецца абгрунтаванай і законнай. Падставў для апратэставаньня няма. Прынятае рашэньне можа быць абскарджана кіраўніцтву пракуратуры Мінскай вобласьці. Начальнік аддзела агульнага нагляду В.В.Дзмітрыеў."

Спадзяюся, вы зразумелі з ліста і пастановы ў чым справа: вясковую бабулю пакаралі за тое, што яна перакопвала бульбу на грамадзкім полі. Перакопвала не адна, а пакаралі толькі яе. І ёй крыўдна ад такой несправядлівасьці... Справа, як бачым, дробная, але вынікі яе зусім не ўяўляюцца нязначнымі. Гэта тая ж маленькая кропля, у якой адлюстроўваецца ўвесь сьвет. Адзначым толькі некаторыя нюансы.

Па-першае. Старшыня сельсавета – фігура ў вёсцы хутчэй “прахадная”. Ад яго і раней мала што залежала, а цяпер — тым болей. Тым ня менш, намінальная ўлада ў яго ёсьць. Калі ён пажадае зрабіць вам “вясёлае” жыцьцё, то зробіць. Узяць хоць бы выдзяленьне паліва, як у гэтым выпадку. Спадарыня Уласенка, вядома, не магла прадбачыць, што звычайны бытавы канфлікт так сапсуе ёй далейшае жыцьцё. Можа быць, яна забылася, што ўлада чалавека лепшым ня робіць, хутчэй наадварот. Але тут нават ня гэта важна. Справа ў тым, што у сёньняшняй вёсцы любы начальнік, маленькі ці вялікі, можа зрабіць з вамі, што заўгодна. Ня даць паліва, аштрафаваць, пасадзіць, прымусіць, увогуле, зьбегчы з вёскі куды вочы глядзяць. І ўсё гэта – строга па законе. Нават, калі яго зловяць за руку (што маловерагодна), яму нічога ня будзе. Бо тыя, хто яго кантралюе ў раёне і вышэй, чакаюць ад мясцовага начальніка менавіта такіх паводзінаў. Паводзінаў пад дэвізам “трымаць і не пушчаць”. І ці ня гэтага патрабуе ад сваёй “вертыкалі” сам прэзідэнт?

Па-другое. Калі пракурорскі работнік піша ў адказе пенсіянерцы, што апытаны дырэктар эксбазы і старшыня сельсавета, то ён сябе ставіць у смешнае становішча. Выходзіць, хто затрымаў, той і сьведка? А дзе іншыя, чаму яны не апытаныя? Ці можна верыць паказаньням зацікаўленых асобаў? Гэта моцна нагадвае дзеяньні мінскіх судоў пасьля акцыяў апазіцыі. Тут, як вядома, галоўнымі сьведкамі выступаюць міліцыянты. Тыя, хто зьбіваў жанчынаў і падлеткаў, і каго, па сутнасьці, трэба судзіць за перавышэньне службовых паўнамоцтваў. Між іншым, дырэктара эксбазы “Любанская” самога трэба прыцягваць да адказнасьці, але ўжо крымінальнай. Адзначу, ён сцвярджае, што 24 кастрычніка(!) бульба ў яго гаспадарцы яшчэ не ўбраная. Нагадаем, што летась у гэты час пад Мінскам ужо былі моцныя маразы, а месцамі і ляжаў сьнег. Чаму ж тады бульба не выкапаная? Пракуратуру гэта не цікавіць. Вось калі б згары паступіла каманда: трэба аднаго-двух начальнікаў паказальна пасадзіць – пасадзілі б.

Па-трэцяе. Краіна, і асабліва яе сельская частка, усё больш пачынаюць нагадваць СССР 30-х гадоў. Розьніца пакуль дробная: тады маглі пасадзіць (а то і расстраляць), сёньня можна, калі пашанцуе, абысьціся штрафам. Але па духу тагачасныя рэпрэсіі і цяперашнія – ідэнтычныя. Засталося пачакаць, калі яны стануць ідэнтычнымі ня толькі па духу? Ва ўсякім выпадку, працэс ідзе ў гэтым кірунку. Прынамсі, ураджай падае з году ў год, а, значыць, трэба шукаць вінаватых і судзіць тых, хто з голаду выходзіць зьбіраць пакінутыя на палях, няўбраныя "каласкі" ды бульбіны...

Спадарыня Уласенка, зразумела, праўды не дабілася (ды і не даб'ецца). Судовая ды іншыя машыны працуюць у нашай краіне ў адным зададзеным напрамку: на падаўленьне любога пратэсту, знішчэньне любой нелаяльнасьці да рэжыму, які яны абслугоўваюць і які ім аплочвае “заказ”.



**Андрэй СЯРЖАН**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*22 верасьня* Зінаіда Ганчар і Ірына Красоўская — жонкі зьніклых 16 верасьня Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага, а таксама сакратарка Ганчара Кацярына Антонік і ягоны кіроўца Яўген Лычоў былі выкліканыя да сьледчага Мінскай пракуратуры Сяргея Новікава дзеля дачы паказаньняў у якасьці сьведкаў па заведзенай крымінальнай справе.

*23 верасьня* ў судзе Маскоўскага раёну г.Мінска пад старшынствам судзьдзі І.Шэйко адбылося слуханьне адміністратыўнай справы Алега Воўчака (былога сьледчага пракуратуры,старшыні грамадзкай арганізацыі "Прававая дапамога насельніцтву") за ўдзел у мітынгу 27 ліпеня (Дзень Незалежнасьці). Суд спыніў справу за адсутнасьцю ў дзеяньнях А.Воўчака складу правапарушэньня.

*24 верасьня* кіраўнік польскага зьнешне-палітычнага ведамства Браніслаў Герэмек зьвярнуўся з асабістым лістом да віцэ-прэм'ера, міністра замежных справаў Беларусі Урала Латыпава. Ліст напісаны з прычыны таго, што зьнікненьне выконваючага абавязкі старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня Віктара Ганчара выклікае занепакоенасьць у Польшчы. У лісьце польскі бок выказвае гатоўнасьць прадаставіць любую інфармацыю і неабходную дапамогу для праясьненьня факту зьнікненьня Віктара Ганчара.

*26 верасьня* інфармацыйнае агенцтва Франс Прэс (Agence France Press) паведаміла інфармацыю аб тым, што літоўскія ўлады ўзмацнілі ахову старшыні Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Сямёна Шарэцкага, які знаходзіцца ў Вільнюсе з ліпеня 1999 г. 23 верасьня літоўскі штотыднёвік "Veidas" апублікаваў прызнаньне ананімнага "прафесійнага снайпера", які заявіў, што два рускамоўныя мужчыны прапанавалі яму 100.000 даляраў ЗША за забойства Сямёна Шарэцкага. У інтэрв'ю французскаму інфармацыйнаму агенцтву С.Шарэцкі заявіў, што кіраўніцтва Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня "сур'ёзна разглядае магчымасьць фармаваньня ўраду ў выгнаньні".

*18 верасьня* ў офісе Свабоднага прафсаюза беларускага па вул. Захарава, 24, у г.Мінску была адключаная тэлефонная сувязь. *19 верасьня* пад кіраўніцтвам участковага міліцыянта тут быў праведзены вобыск. Прычына — паведамленьне пра нібыта замініраваньне офіса СПБ. Вобыск вынікаў не даў, але міліцыянты канфіскавалі агітацыйны матэрыял. *28 верасьня* памяшканьне офісу наведалі чацьвёра супрацоўнікаў інспекцыі фінансавых расьсьледваньняў, якія, ня маючы законнага права на праверку дакументаў, запатрабавалі іх. *29 верасьня* ў 19.00 каля ўваходу ў офіс СПБ 24 міліцыянты заблакавалі машыну, якая павінна была ад'ехаць ў горад Оршу з прафсаюзнай літаратурай і канцтаварамі. У машыне знаходзілася Эва Савіцка – эксьперт Варшаўскага бюро Амерыканскага цэнтру міжнароднай салідарнасьці працоўных, перакладчык Людміла Каплунік і кіроўца Алесь Кручынін. Адначасова будынак, у якім знаходзіцца офіс СПБ, акружылі супрацоўнікі міліцыі, матывуючы гэта тым, што паступіў сігнал аб яго замініраваньні. Міліцыянты выселілі жыхароў дома № 24 па вул. Захарава. Па камандзе асобаў у цывільным супрацоўнікі міліцыі правялі вобыск, але бомбы не знайшлі. Пасьля гэтага міліцыянты двойчы абшукалі ўласныя рэчы супрацоўнікаў. Аднак нічога "крамольнага" не знайшлі. Падчас вобыску машыны прысутнічаў консул Польшчы.

Гэтыя факты сьведчаць пра тое, што ўлады усур'ёз устрывожаныя намерам Свабодных прафсаюзаў правесьці 30 верасьня акцыі пратэсту ў буйнейшых гарадах Беларусі.

*У верасьні* пракуратура Маскоўскага раёну г.Мінску працягнула да трох месяцаў сьледства па крымінальнай справе супраць старшыні грамадзкай арганізацыі "Прававая дапамога насельніцтву" Алега Воўчака. Крымінальная справа была ўзбуджаная 21 ліпеня 1999 г. пасьля акцыі з нагоды заканчэньня тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў А.Лукашэнкі.

*У верасьні* калегія па Крымінальных справах Гомельскага абласнога суда зацьвердзіла прысуд у адносінах былога старшыні абласной камісіі па выбарах прэзідэнта Беларусі 16 мая 1999 г., Яўгена Мурашкі. Крымінальная справа супраць Я.Мурашкі была ўзбуджаная пасьля сустрэчы жыхароў г.Гомеля са старшынём Цэнтрвыбаркаму Віктарам Ганчаром. 18 чэрвеня 1999 г. суд Цэнтральнага раёну г.Гомеля прызнаў Я.Мурашку вінаватым ў неаднаразовым парушэньні парадку арганізацыі публічных масавых мерапрыемстваў і прысудзіў да ўмоўнага пазбаўленьня волі тэрмінам на адзін год з выпрабаваўчым тэрмінам — адзін год.

*30 верасьня* газета "Народная воля" надрукавала адкрыты зварот маці Віктара Ганчара, у якім гаворыцца: "Я зьвяртаюся да праваахоўных органаў: я буду маліцца за вас усё жыцьцё, толькі дапамажыце мне ў маім горы! Я зьвяртаюся да вас, спадар прэзідэнт: узгадайце маю дабрыню, прастату і гасьціннасьць у адносінах да вас. Дапамажыце мне вярнуць майго сына!"

# Звычайны лукашызм

(Пачатак на стар. 1)

прафсаюзы рыхтуюцца да акцыяў пратэсту... І тут жа паведамленьні, якія ўжо даўно сталі звычайнымі: пра зьбіцьцё і арышты сярод удзельнікаў арганізаваных апазіцыяй мітынгаў і шэсьцяў.

Гэтая восень абяцала быць гарачай. Стала зразумелым, што ліміт веры ў бясконцыя абяцаньні прэзідэнта блізкай лепшай будучыні ў народа канчаецца. Час ідзе, а жыцьцё становіцца ўсё горш і горш. І перспектывы з гэтым прэзідэнтам ня бачыцца —пачалі разумець людзі. Сьпецслужбы, якія адсочваюць настроі ў народзе, забілі трывогу. Чым мог адказаць на гэта Лукашэнка? Толькі далейшым "закручваньнем гаек". Быў прыняты шэраг указаў і дэкрэтаў дзеля стрыманьня і запалохваньня грамадзянаў: аб умацаваньні працоўнай дысцыпліны і ўвядзеньні кантрактнай сістэмы на прадпрыемствах, скіраваныя супраць "асьмялелых" рабочых ды служачых, аб прадухіленьні надзвычайных здарэньняў на масавых акцыях, скіраваны супраць выступаў пратэсту і інш. Не бяда, што гэтыя дэкрэты ды ўказы прэзідэнта груба парушалі правы чалавека. Усё падпарадкоўвалася галоўнай мэце: запалохаць народ.

Адначасова пачаўся наступ і супраць апазіцыі. Да пасьпяхова праведзеных акцыяў можна залічыць фактычны раскол Беларускага Народнага Фронту, які адбыўся ў верасьні, ад'езд у эміграцыю ў Летуву старшыні легітымнага парламенту Сямёна Шарэцкага, закрыцьцё важнейшага апазіцыйнага выданьня газеты "Навіны" і, нарэшце, зьнікненьне Віктара Ганчара... Апошняе здарэньне істотна вылучаецца ў шэрагу пералічаных падзей. Бо размова тут ідзе аб жыцьці і сьмерці чалавека... Насьцярожвае гэты выпадак яшчэ і таму, што ён ня першы сёлета: увесну зьніклі былы старшыня Нацбанку Т. Віньнікава і былы міністр унутраных справаў Ю.Захаранка. Падобна на тое, што ўладам пачынае падабацца гульня "быў чалавек — была праблема, няма чалавека — няма праблемы..." Гэта страшна. Бо пытаньне: "Хто наступны?" набывае дужа рэальны і злавесны сэнс...

Усе гэтыя падзеі адбываліся нібыта на тле арганізаванага АБСЕ дыялогу паміж апазіцыяй і ўладамі. Думаецца, што цяпер нават самым упартым прыхільнікам перамоваў становіцца зразумелым: Лукашэнка робіць і зробіць усё дзеля таго, каб захаваць сваю ўладу; Лукашэнка законным шляхам уладу не аддасьць, няхай хоць цэлы год апазіцыя зьбірае стотысячныя мітынгі пратэсту пад вокнамі ягонай рэзідэнцыі; калі Лукашэнка адчуе рэальную пагрозу сваёй уладзе, ён ня спыніцца ні перад якімі ахвярамі і ніякія заявы міжнароднай супольнасьці, і АБСЕ ў прыватнасьці, яго не стрымаюць... Галоўнае пытаньне для Лукашэнкі — пытаньне ўлады і словы ягоныя, сказаныя напачатку прэзідэнцтва: "я прыйшоў надоўга і ўсур'ёз" набываюць сёньня рэальны і трагічны для беларускага народу зьмест.

Чалавецтва зьведала ў дваццатым стагодзьдзі, што такое фашызм, сталінізм, маоізм... Вельмі не хацелася б, каб гэты сьпіс падоўжыў лукашызм.

**Андрэй НАЛІВА**

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

# Васемнаццаць месяцаў у пекле

Майго сябра звалі Зьміцер. Ды зрэшты, чаму звалі, яго так клічуць і цяпер. Толькі ён *там*, а я ўжо *тут*.

Чалавек, якому інкрымінавалі спробу ўзяць хабар, і не даказалі гэтага – атрымаў восем(!) гадоў. Чатыры з іх ён ужо адседзеў, а чатыры яшчэ наперадзе. Дзякуючы яму і ягоным кулінарным здольнасьцям я кожны дзень мог есьці нешта смачнае, часам нават ня менш смачнае, чымсьці ежа з волі. Мне было каго паслухаць, а галоўнае, мне было каму выказацца, і ён – разумеў мяне. Мы даволі часта размаўлялі па-беларуску, што было для мяне бальзамам...

Цяпер, з волі, я стараюся як мага часьцей пісаць яму, стараюся нечым дапамагчы перажыць чорны перыяд ягонага жыцьця. У дзень вызваленьня Зьміцера, я, калі толькі буду жывы, прыйду да турэмнай брамы. Зьміцер, я памятаю цябе, трымайся!

З надыходам восені настрой мой стаў часта псавацца: апанавала невярагодняя туга. Ці гэта брала сваё халоднае дажджлівае надвор'е, ці тое, што ўжо нічога не чакаеш. Акрамя як дня вызваленьня. Я зноў пачаў хутка худнець, хаця, здавалася, худнець ужо не было куды. Я стаў піць зашмат моцнай гарбаты і паліць. Увесь сьветлы час сутак я таптаў прагулачны дворык з цыгарэцінай у зубах і проста марыў. Я хацеў уявіць сабе, што гэта такое, Воля? Тады напісаліся такія радкі:

*Аніводнага дня бяз суму*
*Аніводнага дня бяз мары*
*Толькі пра Волю думы,*
*Погляд толькі ў хмары.*
*І быццам на вуснах сода*
*Дажджлівы й брудны нарыс...*
*Не імгненьне спыніся, Свабода,*
*Адкажы мне, якая ты зараз...*

Так прайшла восень, надышоў Новы год. Напярэдадні я адсьвяткаваў сваё 20-годзьдзе, атрымаў з тры дзесяткі віншавальных паштовак, і, як высьветлілася пазьней, яшчэ з два дзесяткі не атрымаў, бо яны "згубіліся" на шляху ад цэнзарскай да бараку.

На Новы год адміністрацыя дазволіла пасьвяткаваць да 2-х гадзінаў ночы, чаму ўсе вельмі радаваліся, елі самаробныя тарты і палілі назапашаныя цыгарэты. Да майго вызваленьня заставалася 57 дзён.

Новы начальнік атрада, лейтэнант Малюкоў паставіўся да мяне даволі нармалёва, пераклаўшы ўрэшце з 3-га на 2-гі ярус нараў, і нават хацеў дазволіць мне дадатковую перадачу, але, зразумеўшы, што пасьля клопатаў не абярэшся, кінуў гэтую задуму. Файны быў атраднік. Ён выпадаў з абоймы іншых супрацоўнікаў адміністрацыі. Чым? Ён не жадаў мне зла. Адзіны. Астатнія ж: начальнік УЖ 15/1 І.І.Бахур, намесьнік Ю.В.Жогаль, аператыўнікі В.А.Гарбацэвіч і Я.А.Лось пры першай магчымасьці далі б мне "адарвацца" па поўнай праграме. Іх стрымлівала толькі тое, што з-за гэтага можа ўзьнікнуць скандал. Думаю, што іхнія знаёмыя, з якімі яны, магчыма, ветлівыя і мілыя, схамянуліся б, даведаўшыся пра тое, і не паверылі б: "Няўжо гэтыя абаяльныя міліцыянты на працы — амаль звяры?". Так, не сумнявайцеся. Адно толькі мяне цікавіць, а як яны сябе дома паводзяць, з дзецьмі, з жонкаю? Няўжо гэтаксама цкуюць і перавыхоўваюць, няўжо гэтаксама зьдзекуюцца? Я не хачу прыводзіць тут факты, якія дэскрэдытуюць іх, як афіцэраў, хай гэта застаецца на іх сумленьні...

Дваццаць першага студзеня выйшаў Закон аб амністыі некаторых катэгорыяў грамадзянаў. Дзякуючы яму, я мог выйсьці на Волю раней на тыдзень, ці на некалькі дзён... Гэта было, вядома, важна для мяне, але я напісаў заяву аб адмове ад амністыі ў трох экземплярах і перадаў іх кіраўніцтву калоніі. Рашэньне гэтае было прынцыповым: мне ня трэба было падобных "падачак" ад уладаў.

Усё ішло, так як і меркавалася. 17 лютага вывесілі сьпісы тых, каму трэба было зьявіцца на камісію па амніставаньні, і, зразумела, мяне там не было. Але 18 лютага, а дванаццатай гадзіне дня, у барак прыйшоў міліцыянт, які паведаміў мне, што яму загадана канваіраваць мяне на камісію па амніставаньні. Мае адмова і папярэджаньне аб незаконнасьці гэтых дзеяньняў не падзейнічалі на яго, і я быў заведзены ў актавую залу УЖ 15/1. Як я даведаўся, пасяджэньне камісіі ўжо скончылася, але ўсе засталіся сьпецыяльна для таго, каб амніставаць мяне.

Нягледзячы на пратэсты, мне зачыталі пункт дзевяты Закона аб амністыі і сказалі, што яна прыменена да мяне. Пасьля мяне ўгаворвалі расьпісацца за тое, што я згодзен з амніставаньнем, але я ў адказ напісаў скаргу ў пракуратуру гораду Мінску...

Апошнія дні ішлі вельмі марудна. Вызваліць маглі ў любы дзень, але, як мне распавёў начальнік атрада – каля брамы турмы мяне чакала група падтрымкі з "Маладога Фронту", а адміністрацыі было загадана гэтую сустрэчу – сарваць. Такім чынам, я вымушаны быў назіраць, хто ж пераможа ў гэтым супрацьстаяньні, Малады Фронт ці УЖ 15/1, сам пры гэтым ня маючы ніякой магчымасьці паўзьдзейнічаць на гэта.

Урэшце, больш вопытныя турэмшчыкі ня надта сумленным чынам "перамаглі" маладафронтаўцаў. Прыкладна а дванаццатай гадзіне дваццаць трэцяга лютага да сустракаючых выйшаў адзін з супрацоўнікаў адміністрацыі і паведаміў, што сёньня нікога вызваляць ня будуць. Пачуўшы ад хлопцаў адказ, што яны усё роўна застаюцца чакаць, ён, з хлуслівай шкадобай прамовіў: "Дзеткі, вы хоць паесьці схадзіце, а то стаіце тут пад дажджом..." І калі хлопцы і дзяўчаты і праўда пайшлі перакусіць, мне загадалі за пяць хвілінаў сабраць усе рэчы і вымятацца з турмы.

Я марудзіў як мог, але, нягледзячы на гэта, у хвіліну майго выхаду пляцоўка перад турмою была пустая. Тут трэба дадаць, што перад самым выхадам мяне добра абшукалі, забраўшы некаторыя турэмныя рэчы, мой турэмны фотаздымак і копію скаргі на намесьніка начальніка турмы. Усё тое, што я планаваў перадаць журналістам. Але галоўнага яны не знайшлі. Тры мае турэмныя сшыткі – чакалі мяне ўжо на Волі. А там – усё: вершы, успаміны, храналогія...

Такім чынам, я выйшаў за браму турмы і нікога ня ўбачыў... Ды раптам аднекуль з боку пачуў крык: "Лёша!..", азірнуўся і ўбачыў маму. Толькі яна адна засталася чакаць мяне. У 12.45 дваццаць трэцяга лютага я скінуў турэмную вопратку і стаў вольным чалавекам.

Так скончылася мая гісторыя, звязаная з "графіці". І зараз, пасьля вызваленьня, я магу яшчэ раз сказаць – я ні аб чым не шкадую...

## VI. Пасьля...

А пасьля быў фэст, наладжаны ва Управе БНФ, некалькі дзесяткаў інтэрв'ю газетчыкам, тэлевізійшчыкам і супрацоўнікам радыё, сустрэчы з сябрамі, старымі знаёмымі. Мая "пасадка" стала і для многіх з іх своеасаблівую праверкаю. Хтосьці адмовіўся, што калісьці ведаў мяне, хтосьці наадварот – падтрымліваў як мог, а хтосьці паставіўся абыякава. Ва ўсялякім разе цяпер я ведаю, каму ціснуць руку, а каму не, і ад каго чаго чакаць.

У РАУСе мне ўстанавілі тэрмін нагляду ў адзін год, які я павінен паводзіць сябе прыкладна, інакш — назад у турму.

Воля сустрэла мяне і ня надта прыемнымі навінамі: мяне адлічылі з Белдзяржуніверсітэту і выгналі з інтэрнату.

Аднак – сьвет не бяз добрых людзей і, зараз я маю дзе жыць, маю працу і з восені зноў пачынаю вучыцца.

Усё лепшае ў мяне павінна быць наперадзе, бо столькі дрэннага засталося ззаду... Вера ў лепшае была са мною за кратамі, і я ніколі яе не губляў. Лепшыя часы надыйдуць... Я ў гэта веру, я ў гэтым перакананы...

А. Шыдлоўскі. Станьково – Менск

(Заканчэньне.
Пачатак у №№ 31-34, 36-41)

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mal:rights@v96.open. by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку абавязковая спасылка на бюлетэнь.

У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Цэнтру "Вясна-96"